

# РАТУША

Магілёўская дэмакратычная газета



№ 24 (33)
24 лістапада — 3 снежня 1992 г.
Кошт 2 руб.


# Газеце «Ратуша» споўнілася два гады

*Нататкі аб яе праблемах і дасягненнях чытайце ў наступных нумарах*

## ЦЫТАТА НУМАРА

*«Спецыфіка становішча ў тым, што тэндэнцыі камуністычнай рэфармацыі выяўляюцца як антыдзяржаўныя, антыбеларускія, антыкультурныя з'явы. Ніякага параўнання дачыненняў з камуністамі на Беларусі і скажам,* у Польшчы, Літве, Венгрыі ці ў любой іншай краіне быць не можа. Там пры рэзкім палітычным антаганізме з грамадствам камуністы маюць і аб'ектыўныя з ім агульнасці — гэта агульная мова, прызнанне *каштоўнасцей дзяржавы і* яе суверэнітэту. Нічога падобнага не існуе ў камуністаў на Беларусі. Гэта чужароднае, антыдзяржаўнае, антыбеларускае ўтварэнне, дзейнасць якога і ў нармальнай дэмакратычнай дзяржаве павінна быць забаронена. Гэтак жа як і дзейнасць фашысцкіх (калі б яны былі) і іншых антыдзяржаўных, антынацыянальных, антычалавечых, антыкультурных арганізацый.

**Зянон ПАЗЬНЯК.**
**«Што з парламентам», «Народная газета», 14 лістапада 1992 г.**

## —Чым далей— у рынак...

Па становішчу на 1 студзеня 1992 г. АТФ «Днепр» аб'ядноўвала 29 магазінаў. У лістападзе ад гэтай колькасці засталося 17, астатнія зданы ў арэнду. На іх базе створаны гэткія фірмы, як «РАПС», «МАХ-ВАМ», «ПОЛІ», «САЮЗ», «МААДЭПС».

Як сведчыць даведка Дзяржгандальінспекцыі, шматлікая дзейнасць гэтых фірм, прадугледжаных у статутах, звялася, практычна, да адной — гандлёва-закупачнай, якая зарыентавана, у асноўным, на продаж гарэлачных напіткаў.

Паўгода таму крама № 4 аб'яднання «Мебельгасбудматэрыялы», размешчаная ў буйным мікрараёне Мір-1, якая гандлявала ўсімі групамі гаспадарчых тавараў, перададзена ў арэнду ўласнаму прадпрымальніку М.В. Ісачанка.

На дзень адкрыцця і праверкі 3.11.92 г. у гэтай краме ў продажы меліся 46 найменняў харчовых тавараў, 49 — прамысловых, з якіх толькі 4 наймення гаспадарчай групы. Іншых магазінаў у гэтым мікрараёне няма.

Плошча крамы № 2 фірмы «Саюз» (заг. В.І.Дыгалава) — 250 кв. м., з іх гандлёвага зала — 130, якія выкарыстоўваюцца толькі на 30 працэнтаў з-за адсутнасці тавараў. Па гэтай прычыне халадзільны шкаф і халадзільная камера на дзень праверкі былі адключаны.

**НАШ КАР.**

## «ЧАКАЙЦЕ І СПАДЗЯВАЙЦЕСЯ»

### Кошт катэджаў падскочыў да 1 млн. 400 тыс. руб., а ў некаторых раёнах горада ідзе хаатычнае будаўніцтва.

ГАЛАВАКРУЖАЛЬНЫ рост цэн на будматэрыялы не змяншае паток людзей у аддзел індывідуальнай забудовы ўпраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва. 3,5 тысячы магіляўчан, прагнучы атрымаць зямельны ўчастак пад будаўніцтва катэджа, атакуюць гэту ўстанову. Але ўсе намаганні па рэалізацыі жыллёвай праграмы ўласнымі рукамі зводзяцца сёння да нуля.

Унутраныя рэзервы горада вычарпаны цалкам. Няма выразнай мяжы Магілёва, якая ўлічвае сённяшні ўзровень развіцця прамысловасці і насельніцтва. Калгасныя землі знаходзяцца ўжо ў цэнтры горада. Распрацаваная праграма развіцця Магілёва на 10 тыс. участкаў, прадугледжвае будаўніцтва катэджаў паміж Мінскім шасэ і Дняпром. Гэта землі калгасаў імя Валадарскага і «Камінтэрна». Для таго, каб выканаць намечаную праграму, у першага калгаса з дзвюх тысяч гектараў вольнай зямлі неабходна выключаць 622 га, г.зн. папросту знішчыць гаспадарку. Тое ж і з «Камінтэрнам», у якога трэба «адабраць» 1/3 ворных яго зямель.

Адно выйсце ў гэтай сітуацыі — размеркаванне зямлі паміж калгасамі, магчыма, некалькіх раёнаў.

Але гэта задача невыканальная з-за недасканаласці закона аб зямлі, які назваў яе ўласнікамі мясцовыя Саветы без канкрэтызацыі.

Таму сёння з дазволу мясцовых Саветаў у некаторых зонах Магілёва ідзе хаатычнае будаўніцтва без ўліку перспектыў развіцця горада.

Што ж застаецца бедным гараджанам? Некаторыя шчаслівчыкі нядаўна атрымалі 45 участкаў у Казіміраўцы. Улічваючы сумны вопыт з вядомым Дачным пасёлкам, дзе забудоўшчык «Сельмаш» і іншыя прадпрыемствы бралі на сабе ўсе расходы на падвядзенне камунікацый да катэджаў, у выніку чаго, пасёлак да гэтага часу знаходзіцца ў цемры, «бязводдзі і бязгаззі», гарадская ўлада зрабіла вельмі проста: фінансаваць камунікацыі будуць самі будучыя жыхары катэджаў. Гледзячы ў падлогу, яны згадзіліся і з гэтага моманту цана іх «крэпасці» рэзка падскочыла — да аднаго мільёна 400 тысяч.

Магчыма, з гіперінфляцыяй, праз некаторы час гэтыя людзі будуць радавацца зусім маленькім расходам на будаўніцтва. Ім, несумненна, пашанцавала. Але як жа астатнія бязхатнія? У аддзеле індывідуальнай забудовы ім сёння гавораць: Чакайце і спадзявайцеся».

**НАШ КАР.**

*Экспрэс-інтэрв'ю аб вольным часе*

## Вось так і жывём...

*Скажыце, вас калі-небудзь цікавіла пытанне аб вольным часе? Лічыцца, ў кожнага чалавека ён ёсць. Аднак, калі многія не ведаюць, куды падзецца ад гультайства, то другія наадварот скардзяцца, быццам ім няма калі дыхнуць.*

*У чым жа справа? У няўменні карыстацца часам? У цяжкім эканамічным становішчы? А, можа, мы займаемся нікому непатрэбнымі справамі, не прыносячымі карысці акрыжаючым і самазадавальнення для кожнага з нас?*

*Вось што думаюць наконт гэтага мае субяседнікі.*

**Алёна П. 16 год, вучаніца:**

Я ніяк не магу правесці вольны час так, як мне хочацца. На дыскатэкі хадзіць небяспечна (чаго добрага і не вернешся адтуль). У школе цікавыя мерапрыемствы праводзяцца рэдка. Па вуліцы гуляць надакучыла... Так што часцей за ўсё сяджу і сумую, мару аб лепшым...

**Мікалай П., студэнт МДПІ, 20 год:**

З упэўненасцю магу сказаць, што калі пажадаю, тады ў мяне і будзе вольны час. Магу пайсці на заняткі, а магу застацца дома. Чым марудна праводзіць час на нецікавых лекцыях, я лепш схаджу ў кіно, пачытаю фантастыку, паслухаю Цоя. Чакаць, пакуль звалюся з ног ад стомленасці — не ў маім стылі.

**Людміла А., 26 год, гаспадыня:**

Ці можа быць вольны час ў жанчыны з 2-ма дзецьмі на руках? Нават, калі здаецца, скончана з усімі гаспадарчымі справамі, сын з дачкой ні хвілінкі не даюць пасядзець на месцы.

Дзеці сталеюць цяжка. І каб ім было лягчэй, бацькі павінны перакласці на свае плечы палову іх расчараванняў і пакут.

Працэс выхавання — гэта напружаныя маральная і фізічная праца, якая ператварае святы ў будні і наадварот.

**Алёна С., 40 год, медсястра:**

Вольны час — паняцце адноснае. Напрыклад, я пасля працы займаюся сціркай, кухняй, вязаннем. А для кагосьці вольны час надыходзіць толькі тады, калі ёсць магчымасць паляжаць і папляваць у столь.

Я лічу, што мэтанакіраваны чалавек павінен кожную гадзіну выкарыстоўваць для ажыццяўлення нейкай добрай справы. Калі да вечара ты адчуваеш, што дзень прайшоў недарэмна, значыцца, удалася маленькая часцінка жыцця. А гэта цудоўна!..

**Марыя В., 50 год, настаўніца:**

Вольны ад урокаў і падрыхтоўкі да іх час праводжу ў магазінных чэргах. Нярэдка яны аднімаюць паўдня.

Аб культурным жыцці даводзіцца толькі марыць. Самі ведаеце, колькі цяпер каштуюць білеты ў кіно і тэатр. А настаўніцкая зарплата пакуль што не дазваляе жыць на шырокую нагу.

Вось так і жывём: хто — як хоча, хто — як можа. А ўсе ў цэлым лічаць, што так і трэба жыць.

Ну, а каб як вольны час, так і працоўны прыносілі задавальненне трэба проста заўсёды быць на сваім месцы і займацца любімай справай.

**А.ШКЯЛКО.**

*О коммунистических газетах*

## Все оттенки красного цвета

Есть все-таки некоторая незавершенность в этом названии беглого обзора нескольких номеров газет коммунистической ориентации. Поэтому хочется закончить в стиле известного любимца публики: «но зато красного...!», «но это зато все..!» И так далее.

Трудно удержаться от подобной аналогии после знакомства с материалами газет, отражающих взгляды «защитников простых людей». В авангарде, как всегда, идет «Мы и время», редактируемая малоизвестным журналистом В.Никольским и известным партийным функционером В.Чикиным. Тактика газеты — почти буквальное выражение знакомого со школьных лет призыва: «Я хочу, чтоб к штыку приравняли перо!». Основные объекты «штыковой атаки» — власть, земля, собственность.

Вот и накануне открытия сессии Верховного Совета Беларуси страницы «М и В» превратились в пламенную листовку, пригодную и для наклеивания на заборы, и для забрасывания в почтовые ящики, и для многого другого. Своими чеканными и лаконичными строками призывала она «всех на митинг» (читай: на баррикады!), чтобы не допустить принятия «антинародной Конституции» и Закона о приватизации.

С завидной последовательностью «М и В» продолжает «изобличать оборотней» — бывших лидеров КПСС Горбачева, Яковлева, Медведева. Да, тяжело дается свыкание с мыслью, что власть, с которой связано так много приятных воспоминаний, упущена надолго.

Едва отряхнув баррикадную пыль, газета переносит центр тяжести на сплочение партийных рядов. Причем не только в пределах Беларуси, поскольку становится фактически «почтовым ящиком» для свившего себе гнезда в Минске т.н. Всесоюзного политического консультативного совета коммунистических и рабочих партий (ВКПС), а также рупором для обломков международного коммунистического движения, заключивших 20 апреля 1992 г. Пхеньянскую декларацию.

Накануне предстоящего в декабре съезда ПКБ «М и В» публикует проект программы партии (№ 21, 1992). Несмотря на немалый опыт и успехи коммунистов в приведении инакомыслящих к «общему знаменателю», поистине героических усилий им стоило создать единый проект программы из семи предложенных вариантов. Тем не менее, главный ее раздел «На пути к цели», составляющий 2/3 всего текста, пришлось дать в двух редакциях. Несмотря на успокоительное заявление В.Чикина о том, что они отличаются лишь формой изложения, думается, на предстоящем съезде делегатов ждут демократические столкновения с «выкручиванием рук» и «затыканием рта», прежде чем удастся согласовать звенящие железом лозунги одной редакции с обтекаемыми формулировками другой. Впрочем, содержание проекта программы заслуживает отдельного, более подробного анализа.

Поистине умело используют коммунисты явную оплошность нынешнего политического режима, который отменил всенародные официальные торжества по поводу событий 1917 года, и, фактически, сделал вид, что и никаких событий не было. Но события-то были! И вот член Политисполкома ПКБ Т.Адамович со страниц «М и В», искусно комбинируя факты и цифры, привлекая на помощь Маркса и Энгельса, которые якобы еще 130 лет назад предсказали такую Великую Октябрьскую социалистическую революцию, предрекает, что знакомые нам последствия Октября — лишь «цветочки», а «ягодки» мы увидим в XXI веке.

Удивляет неразборчивость, а может быть, свойственное боевым, «партийным прапагандистам» лукавство в выборе потенциальных союзников коммунистов. Еще свежи в памяти те проклятия, громы и молнии, которые призывали на голову сторонников партии А.Бразаускаса в Литве партийные идеологи, в том числе лидеры литовских коммунистов» на платформе КПСС». Сегодня со страниц «М и В» и других изданий ПКБ и ее лидеры, и даже ярый противник Бразаускаса профессор И.Кучеров не скрывают своего ликования по случаю победы партии Бразаускаса над «Саюдисом» на выборах в литовский Сейм. Неужели рьяные сторонники возрождения КПСС и СССР наконец нашли общий язык с теми, кто вывел Литву к независимости и не скрывает намерений продолжать этот курс? Или просто срабатывает желание, спекулируя на обыденном сознании, продемонстрировать, что дело Ленина «живет и побеждает»? Что ж, если приходится прибегать к подобным аргументам, то плохо дело у ПКБ.

Завершить эту часть обзора хотелось бы рубрикой «С миру по нитке», в которой «М и В» собирает нитки исключительно красные, часто— просто окровавленные. «Спадар плаща и кинжала» (о советнике председателя ВС Беларуси Степуре) — одно название материала о человеке, так близко стоящем к политическому лидеру, леденит кровь. И, разумеется, желанный гость «М и В» — академик С.Скоропанов, бывший министр сельского хозяйства БССР, который «недавно получил душевное удовлетворение от того, что в Буда-Кошелевском районе... нет ни одного фермера». Словом, «каков поп, таков и приход».

Продолжим анализ коммунистических газет в очередной «Ратуше».

**В.ЯКОБСОН.**

## *За «драўляныя», але даражэй*

*Хаця, як канстатаваў на прэс-канферэнцыі старшыня Саўміна рэспублікі Вячаслаў Кебіч, рублёвай зоны ў СНД няма, але ж у нашай вобласці на камерцыйных аўтазапраўках можна будзе запravіць індывідуальны і дзяржаўны транспарт за «драўляныя». Але ж каштаваць літр любога паліва для «чужакоў» будзе ў два разы даражэй.*

**Аналітычна-інфармацыйны цэнтр аблвыканкама.**





# ЛЮДЗІ, ПАДЗЕІ І ФАКТЫ

## Бясцэнны скарб старога летапісца

### або Архіў на цэлы горад

*Грамадскасць Магілёва не так даўно адзначыла 80-годдзе старэйшага нашага краязнаўцы-даследчыка Іераніма Іосіфавіча Філіповіча, якога шчыра віталі і віншавалі мясцовыя газеты, радыё і тэлебачанне, кіраўніцтва горада і Ленінскага раёна, усе, хто добра ведае гэтага сціплага і руплівага чалавека.*

*За ўзнёслымі і справядлівымі словамі прызнання неяк цішком прайшла другая прыкметная падзея, якой (думка аўтарытэтных спецыялістаў) не было яшчэ роўных і ў нашым горадзе, і ўвогуле ў беларускім краязнаўстве пасля 1917 года.*

*Пры садзеянні і дапамозе мінскіх і магілёўскіх музейных работнікаў І.І.Філіповіч перадаў у абласны краязнаўчы музей свой багацейшы ўласны архіў, сабраны больш як за паўстагоддзя штодзённай бескарыслівай (чытай — неаплачваемай) працы.*

#### ПАЧАЎШЫ Ў 30-х

Шмат навальніц пранеслася за гэтыя часы над Магілёвам, Беларуссю, Савецкім Саюзам, над самім Іеранімам Іосіфавічам, які з юнацтва, недзе з 1930 года, займаецца даследаваннямі і пошукамі фактаў і дакументаў па гісторыі роднага горада.

Каб расказаць пра такую жыццёвую эпапею больш-менш поўна, патрэбна, бадай, цэлая кніга. Таму многае ў гэтым аповядзе будзе, так сказаць, пазначана пункцірам. Галоўны акцэнт давядзецца зрабіць на выніках тытанічнай працы невысокага хударлявага чалавека з не вельмі моцным здароўем, які адолеў такі гістарычны пласт, які бадай не змаглі б падняць і некаторыя музейныя калектывы.

Гэта не папрок. Не віна, а бяда беларускага і рускага да вушэй заідэалагізаванага музеязнаўства ў тым, што яно не займалася ўласна гісторыяй, а разам з вучонымі ўсёй галіной навукі і культуры, выконвала сацыяльны заказ дзяржавы». Гэта значыць, старанна падганяла ўсе гістарычныя падзеі пад пракруставы ложак бальшавіцкага погляду на ўвесь свет і ўсё, што ў ім было, ёсць і будзе.

Жыццё, між тым, ішло не па Марксу і Энгельсу — па Гітлеру, Сталіну, Хрушчову, Брэжневу і інш. І ва ўсе гэтыя нялёгкія, а іншы раз жахлівыя часіны, сціплы магілёўскі інтэлігент, якому часам і на хлеб-бульбіну для сям'і не хапала, сцяўшы зубы, працаваў над уласным сумленнем пастаўленай сабе жыццёвай суперзадачай. Ішоў уласным шляхам чалавека і даследчыка. Цяжкім, пакручастым, іншы раз небяспечным, і ніколі далёка не адышоў ад яго. Нават у партыю. Каб не адхіляцца ад асноўнай справы.

І справа, паволі ці хутчэй, ішла. Што толькі можа адзін чалавек, (з падтрымкаю або і без яе) — бліжнія і далёкія архівы Магілёва, Мінска, Масквы, Ленінграда, Вільні, другіх гарадоў, Польшчы, бібліятэкі, музеі, іншыя ўстановы, што маюць дачыненне да гісторыі, дзе ёсць хоць малейшыя звесткі пра Магілёў-на-Дняпры і наваколлі, яго людзей і падзеі.

#### СУМУЮЧЫ ВЫНІКІ

«...*Агульная колькасць рукапісных і друкаваных дакументаў фонду — больш за паўмільёна. Яны ўзбагачаны і дапоўнены тысячамі фотакопій з арыгіналаў першакрыніц... Навуковая і гістарычная каштоўнасць фонду Філіповіча І..І. вызначаецца перш за ўсё яго сістэмнасцю, максімальным выкарыстаннем першакрыніц і выключнай падрабязнасцю навуковага апарату (пераважная частка матэрыялаў фонду абапіраецца на старажытныя акты і летапісы), прыцягненнем максімальна магчымых у ходзе шматгадовых пошукаў прац розных аўтараў, якія ў той ці іншай меры датычылі гісторыі Магілёва і Магілёўскай губерні. Падрабязнасць матэрыялаў па асобных гістарычных перыядах проста ўражвае, бо даецца іншы раз ледзь не па днях...*»

Прабачце за доўгую цытату з даведкі-водгука, які падпісалі дырэктар Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі С.І.Загрышаў і галоўны спецыяліст па музеях Міністэрства культуры Беларусі С.І.Маслакоўскі. Нават аўтары лаканічнага афіцыяльнага дакумента не ўтрымаліся ад эмоцый. Ад захаплення вынікам гіганцкай мэтанакіраванай працы звычайнага чалавека са звычайнай сярэдняй адукацыяй. Вывады вядучых спецыялістаў падтрымліваюць і музейныя работнікі Магілёва, з якімі І.І.Філіповіч плённа супрацоўнічае ўсё свядомае жыццё.

#### ГІСТОРЫІ СУЧАСНАСЦЬ ЗАМІНАЛА

Як журналісту, аўтару гэтых радкоў, шмат давялося супрацоўнічаць з Іеранімам Іосіфавічам, рыхтаваць да друку ў «Магілёўскай праўдзе» і другіх газетах яго цікавейшыя артыкулы і заметкі па роднай гісторыі, славутых земляках. Не заўсёды была плённай сумесная работа. Не раз заміналі і перашкаджалі публікацыям здавалася б бяскрыўдных гістарычных фактаў лавіны афіцыйных дакладаў, ура-заметак пра сацспаборніцтва, ідэалагічныя догмы, цэнзура і самацэнзура, ды і звычайная, выхаваная савецкай уладай абыякавасць да ўсяго, што адбывалася да 1917 года.

Між тым, дзякуючы такім людзям, як стары магілёўскі краязнавец, мы, і не толькі мы, не пазбыліся, не пазбавіліся, не забыліся на свае карані. Карані былога сярэдневяковага цэнтра ўсходнеславянскай культуры і мастацтва, кнігадруку, апірышча праваслаўя, памяркоўнага і да другіх рэлігій, горада таленавітых майстроў-рамеснікаў, дойлідаў, прадпрымальных купцоў, адважных воінаў (не заваёўнікаў), якія вякамі і пакаленнямі адбіваліся ад усіх ворагаў. Горада, які афіцыйна быў ураўняны ў правах са сталіцай Вялікага княства Літоўскага Вільняй.

Дзеля такога можна і трэба было працаваць. Нават пры мізэрнай зарплаце будаўніка-геадэзіста і яшчэ меншай пенсіі. Нават калі зусім няможна станавілася жыць, займаючыся па сутнасці грамадскай работай (у савецкай дзяржаве такая ніколі не аплачвалася).

Некалькі пакаленняў магілёўцаў чыталі змястоўныя газетныя матэрыялы нашага вядучага даследчыка і стваральніка жыццяпісу горада. Артыкулы і заметкі, якія папаўнялі веды, узбуджалі жывую цікавасць да спраў і дзеяў продкаў, па вартасці ацэньвалі многія невядомыя або прыхаваныя факты тысячагадовай, толькі летапіснай, гісторыі Беларусі і 725-гадовага горада. Толькі з тых багата ілюстраваных матэрыялаў, што толькі ў апошнія два гады змясціў «Вестник Могилева» пад рубрыкай «Миф и правда о Могилеве», можна скласці асобную захапляючую кнігу. А гэта — частка грунтоўнага айсберга і неацэненага да канца феномена па прозвішчу Філіповіч.

#### ПЛЕН ВЯЛІКАЙ ПРАЦЫ

Паверце, для таго, каб бегла апісаць неацэнны скарб, што перадаў Іеранім Іосіфавіч, у абласны краязнаўчы музей, патрэбны не адзін артыкул і нават не адна і не дзве поўныя нашы газеты.

Толькі назаву некаторыя з яго прац у дапаўненне сказанага. Гістарычная бібліятэка са 151 кнігі. 76 агульных сшыткаў з копіямі старых і старажытных дакументаў. 54 работы па асобных перыядах (кожная ў асобнай працы ці кніжцы). 36 агульных сшыткаў з матэрыяламі па гісторыі (выпіскі з актавых кніг Магілёўскага магістрата і г.д.) Калі 2 тысяч негатываў. Картатэка з 10238 падрабязнейшых картак па ўсяму фонду. Рукапісныя «Хроніка Магілёва 1267-1606 г.г.» (232 старонкі, 56 фотаздымкаў, апісаны 342 падзеі), «Хроніка Магілёва 1665-1700 г.г.» (370 старонак, 109 фота, 471 падзея), «Хроніка Магілёва 1918 г.», — распісаныя літаральна на кожны дзень. «Гісторыя Магілёўскага замка», «Магілёўскія гербы», «Гісторыя ўзнікнення і станаўлення горада», і многае многае другое. І ўсё — не другараднае. Цаглінка да цаглінкі ў новы замак сапраўднай гісторыі славутай і любімай зямлі і нашага роднага горада.

Спадчына І.І.Філіповіча, вядома, атрымала і грашовую ацэнку (праўда, любы растаропны дзялок пасміхнецца над яе памерамі), ды ў 80 год іх вартасць бачыцца крыху ў іншым ракурсе. Заўсёды жыццярадасны, іранічны, скоры на жарт, на досціп, Іеранім Іосіфавіч значэнне матэрыяльных даброт не пераацэньвае, хоць і жыве ў старэнькай хатцы на Машэкаўцы (значыць, права на кватэру не мае?), дзе галоўным багаццем заўсёды былі кнігі, дакументы ды чалавечая шчырасць.

Таму, добры чалавеча, не проста вялікае дзякуй табе, але і шчыры зямны паклон — чалом — і наша вечная павага за твой неацэнны скарб, што сабраў ты, бяссрэбранік, і з дарогай (таксама неацэннай!) душой аддаў усім нам і нашым нашчадкам. Дай табе Бог, дарагі Іеранім Іосіфавіч, добрага здароўя, доўгага жыцця. Ну, хаця б «сто лят», як кажуць суседзі-палякі. Можна і больш.

**М. НОЖНІКАЎ.**

---

*Чарнобыль*

## Гаротнікі з мёртвай вёскі



ДВА СТРАШНЫЯ бедствы за апошнія 6 гадоў абрушыліся на чэрыкаўскую вёску Журавель. Спачатку чарнобыльскі попел пакрыў гэты райскі куток на беразе Сожа, выгнаўшы адсюль жыхароў. Потым — нашэсце варвараў у чалавечым выглядзе...

Па краях рам заселі кавалкі шкла, відаць, білі вокны проста так, для «парадку». Бязлітасна вырваныя масніцы, на дрэнна ўцалелым ганку і па зямлі раскіданы дзіцячыя кнігі, падручнікі, чаравікі. Некалі дыхтоўны дом бездапаможна глядзіць сёння пустымі вокнамі на свайго гаспадара. Зміцер Сямёнавіч Міхеенка, моцны на выгляд мужчына, не вытрымлівае. Плача.

Мы заехалі за ім у Чэрыкаў, дзе Зміцер Сямёнавіч цяпер жыве. Ён згадзіўся праехаць і паказаць швецкай дэлегацыі ад евангельстычнай плыні «Жывое слова» сапраўдную карціну чарнобыльскай бяды.

Выгляд вёскі — жудасны. Разрабаваныя дамы. Цішыня. Тое, што не дакончыў Чарнобыль, зрабілі за яго людзі, працягваюць рабіць. 26 красавіка Журавель знаходзіўся далёка ад эпіцэнтра выбуха, але, мяркуючы па вонкаваму выгляду вёскі, іншы выбух, больш моцны, адбыўся як раз у ёй...

Фіранкі на вокнах аднаго з дамоў раптам уздрыгнулі і між імі з'явіўся жаночы твар. Хоць мы ведалі, што ў вёсцы да гэтага часу жывуць тры пенсіянеры, з'яўленне жывой душы на гэтых «могілках» было неверагодным.

— Як я жыву тут? — перапытала Ганна Нікіфараўна Мамекіна і залілася слязамі. Пачуўся нейкі дзіўны гук, гэтак гучыць праколатая шына, выпускаючы паветра. Ганна Нікіфараўна стала папраўляць хустку на шыі і выявілася ў яе так званае «штучнае» горла (устаўлена трубка). Інвалід.

Наша пытанне, вядома, не мела сэнсу. Як могуць жыць у бязлюднай вёсцы кінутыя на волю лёсу тры хворыя, састарэлыя чалавекі?

Ганне Нікіфараўне ўлада «загадала» жыць у Горацкім раёне. Бабулька ўвесь час жыла ў Жураўлі, а працавала ў Чэрыкаве, таму ёй цяжка было заставацца ў незнаёмым месцы, калі паехала туды паглядзець.

Вось і чакае міласці ад улады: можа пашкадуюць і дазволяць ёй пасяліцца ў Чэрыкаве. Але тыя нешта не спяшаюцца ашчасліўіць бабу Ганну, якая амаль 20 гадоў «вылізвала» бруд у Чэрыкаўскім, так званым Доме Саветаў.

Ганна Нікіфараўна распавядае, як збірае па вёсцы шчэпкі і палкі для паліва, як нядаўна два тыдні наогул не магла ўстаць з ложку, хварэла...

Швецкі журналіст Борьё, не вытрымаўшы жахлівай сцэны, спрабуе ўкласці ў руку Ганны Нікіфараўны пачак старублёвак. Расплакаўшыся яшчэ больш, тая адмоўна ківае галавой — грошы ёй не патрэбны. У якасці міласціны грошы ёй, вядома, не патрэбны. Тым больш, што купіць тут няма чаго, крама даўно зачынена...

На замежны аўтобус і незнаёмых людзей прыбегла другая жанхарка вёскі Валянціна Фёдараўна Рухлянкова. У красавіку згарэў яе дом. З таго часу жыве яна ў драхлай хаце. Улада абяцала выдзеліць жыллё ў Чэрыкаве, але вось ужо і ўраджай сабраны з радыяцыйнага агарода, а бабуля ўсе яшчэ ў зоне. Яна згодна жыць нават у інтэрнаце, але, па яе словах, і там месца няма. Жыццё жанчыны з кожным днём становіцца складаней. Ужо немагчыма весці ўласную гаспадарку. 10 курачак трымала Валянціна Фёдараўна, але ястрабы-сцярвятнікі зусім перасталі баяцца чалавека. Толькі што, прама на вачах, драпежнік напаў на сёмую па ліку курачку...

Валянціна Фёдараўна запрашае нас у сваю хату. Мы аслупянелі, калі ўбачылі на сцяне дзяржаўны сцяг Беларусі, яшчэ сацыялістычнай. Журналіст Борьё пытаецца ў гаспадыні, ці мае нейкае значэнне гэты сцяг у яе жыцці? Адказ адмоўны: гэта хата чужая, сцяг і астатнія рэчы таксама.

Вось так, мяняюцца сцягі, гімны, урад, толькі жыццё гэтых бабулек застаецца без змянення.

Вынеслі шведы са свайго аўтобуса ежу для Ганны Нікіфараўны і Валянціны Фёдараўны. Злажылі ў кучу вопраткі, зверху яркачырвоныя рукавіцы. Падарылі па Бібліі, памаліліся ўголас за гаротнікаў, і твары бабулек пасвятлелі.

...Яны выйшлі правадзіць нас і доўга стаялі ля хат у заношаных сваіх целагрэйках, дрэных чаравіках. Я чамусьці ўявіла іх, апранутых яшчэ і ў швецкія неймаверна чырвоныя рукавіцы. І спазма сціснула маё горла.

Назад вярталіся прыгнечаныя. Можна доўга апісваць стан пахіснуўшыхся нашых душ, але размова цяпер не аб гэтай дробязі. Самае жудаснае — Ганна Нікіфараўна Мамекіна і Валянціна Фёдараўна Рухлянкова (з трэцім жыхаром вёскі мы не пазнаёміліся, адсутнічаў) у гэты момант знаходзяцца ТАМ. Іх жыццё зведзена да клопату першабытнага чалавека: што паесці і як абагрэцца. Здаецца, гэтыя гаротнікі для мясцовага кіраўніцтва — пустое месца, на якое можна безбаязнена плюнуць (супраціўлення ад бездапаможных старых не будзе).

Жудасна і тое, што гэта мёртвая вёска нікім не ахоўваецца; тут няма папераджальных знакаў аб радыяцыйным забруджванні, небяспечнай зоне.

«Здабытчыкі» ваўсю арудуюць тут — раскорчваюць дамы па бярвенцу і вывозяць. Куды? Каму «пашанцавала» прыкупіць гэта дабро на хату, дачу, лазню?..

Вярнуўшыся з мёртвага Жураўля я здаецца, страціла надзею на прасвет у будучыні. Ці маем мы на яго права, кінуўшы сёння паміраць нашых старых у адзіноце, холадзе-голадзе, без дагляду, пасыпаўшы іх радыяцыйным попелам?

**В.СЕРАКОВА.**



**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае цяпер дом Зміцера Сямёнавіча Міхеенкі;**

**Ганна Нікіфараўна Мамекіна.**

**Фота Васіля ЦІТОВА.**

**Вёска Журавель Чэрыкаўскага раёна, кастрычнік 1992 г.**

# КУЛЬТУРА

●Знаёмства з творцам

# Узрост творчасці

## або штрыхі да партрэта разьбяра Міхаіла Корабава

*Усе, хто бываў на галоўнай вуліцы Магілёва, у апошні час абавязкова звяртае ўвагу на розныя драўляныя скульптуры, што паўсталі нядаўна на газонах сквера, паміж гарадскім Домам культуры і мастацкім музеем.*

*Сярод іх памерамі і нейкай асаблівай спакойнай веліччу вылучаецца постаць задумленага чалавека ў старажытным адзенні на фоне сярэдневечнага горада з нейкім чарцяжом у руцэ. Гэта «Дойлід» — твор мінскага мастака Міхаіла Корабава, аднаго з удзельнікаў рэспубліканскага пленэра разьбяроў, што прайшоў у Магілёве ў верасні — кастрычніку гэтага года. Тэму сваёй работы 1 месца ўстаноўкі ён прапанаваў сам, бо бываў і жыў у нашым горадзе яшчэ з канца 60-х гадоў.*

...Тады ў Магілёў прыязджаў не мастак, а прафесіянальны мантажнік абсталявання цеплавых электрастанцый М.І.Корабаў, але з душой мастака. Будавалася ЦЭЦ-2 для камбіната сінтэтычнага валакна. У вольны ад работы час Міхаіл Іванавіч пазнаёміўся з горадам і быў зачараваны многімі, цудам уцалелымі старажытнымі куткамі. Жыў часцей за ўсё каля старога аэрапорта (праспект Шміта), які ўжо і не памятае наша юнае пакаленне.

За 23 гады вельмі многае змянілася, — гаворыць Міхаіл Іванавіч, — на жаль не на карысць для горада. Без старых каларытных куточкаў, што былі ў цэнтры, на Лупалаве, іншых месцах, Магілёў прыкметна паблёк. Навізна (асабліва тыповая) не заўсёды ўпрыгожвае.

Даўняе знаёмства дапамагло мастаку яшчэ больш тонка, чуйна адчуць у параўнанні каларыт старога горада, яго душу, дакладна зняць з вялікага і простага дубовага бервяна ўсё залішняе і падараваць магілёўцам сімвалічны партрэт аднаго з іх продкаў.

Дык усе ж — мантажнік-мастак ці наадварот? Мастацтвам, у прыватнасці жывапісам, цікавіўся даўно, спрабаваў пісаць, вывучаў. Года з 1976-га захапіўся дрэвам і канчатковы выбар быў зроблены — разьба і толькі разьба.

Можа, як модна цяпер казаць, гены падштурхнулі? Ды не. У сям'і ўральскага казака з Арэнбуржжа Корабава (у вайну вадзіцеля славутай «Кацюшы») і яго жонкі, простай сялянкі — у абодвух родах ніякіх мастакоў не было. Тым не менш іменна ў 1976-м вопытны мантажнік (цеплацэнтралі Магілёва, Мінска, Мозыра, Наваполацка — 22 гады стажу па першай прафесіі) Міхаіл Корабаў, 40-гадовы бацька двух дачок, рашуча адставіў у бок усе папярэднія справы і пачаў сапраўды новае і сапраўды творчае жыццё.

Не цяжка было? Вядома, нялёгка. Ды асабліва цяжка бывае тым, хто бярэцца за справу, не адчуваючы ў ёй асаблівай патрэбы. У нашым выпадку адпаведнасць была поўная. Справы і яе гаспадара. Плюс рэальнае веданне жыцця і людзей (палову савецкай Еўропы аб'ездзіў; і ўсю Беларусь — з 1963 г.), плюс рабочая і спартыўная (захапляўся бегам на 800 і 1500 м) загартоўка.

А якія гены дапамаглі рускаму чалавеку без акадэмічна-інстытуцкіх студый, знакамітых настаўнікаў і нябачных штурхачоў спасцігнуць многія тонкасці не толькі разьбы (тэхніка), але і душы беларускага народа, яго рэальнай гісторыіі і яе казачна-фальклорнага падмурку?

Усякі твор — плён пэўнай работы. Ды неяк не паварочваецца язык, бачыўшы Корабава за работай і потым яе рэальны плён — назваць яго творы так будзённа — «работа». Бо яны пераасэнсаваныя мастаком, абагульненыя, і ў той жа час вельмі індывідуальныя, заўсёды прыўзняты над штодзённай рэчаіснасцю. У яго рэчаў — існасць уласная і наша — агульная. Фальклорныя і гістарычныя, фантастычныя персанажы заўсёды маюць карані на беларускай зямлі, якая не проста роднай стала мастаку сваёй. Пра гэту роднасць і еднасць сведчаць дыпломы многіх рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных выставак, удзел у фільме беларускіх дакументалістаў «Живая дерева душа» (1984 г.), ва ўсіх пленэрах разьбяроў, што праходзілі на Беларусі ў апошнія гады (Стоўбцы-86, і 92 — «Дарога Якуба Коласа», Навагрудак — 89, Брэст, Воранава, і нарэшце Магілёў), у ВДНГ СССР — не за вытворчыя, а творчыя здабыткі.



І факт асабліва адметны — скульптурны партрэт беларускага тытана-першадрукара, рэпрадукцыя якога нездарма ў персанальнай энцыклапедыі БелСЭ «Францыск Скарына».

«Ars longa — wita wrevies» — казалі старадаўнія рымляне» — «Мастацтва вечнае — жыццё кароткае». Верыцца, што творам Міхаіла Корабава жыццё наканавана не кароткае (цьфу-цьфу — каб не сурочыць), ды і яго жыццё, маладога мастака і сталага чалавека, усё яшчэ наперадзе. І ён — наперадзе. А за ім надзейныя сямейныя тылы. Жонка, беларуска з-пад Брэста, мастачка па тканінах. Дочкі — спецыялісткі па мастацкаму ткацтву і прыкладному мастацтву. Потым, пэўна і двое ўнучак возьмуць прыклад са старэйшых. А яго «Дойлід» будзе радаваць магілёўцаў, натхняць нашых архітэктараў і будаўнікоў, якім яшчэ ўга колькі работы ў горадзе разбураных і спаганеных сац-артам дамоў і ансамбляў.

**М.НОЖНІКАЎ.**
**Фота У.КАЖАМЯКІНА.**

*P. S. Гэтыя нататкі-роздум толькі пра аднаго з мастакоў — удзельнікаў першага ў Магілёве пленэра разьбяроў, пра які паведамляла ўся наша прэса і ў тым ліку «Ратуша». Другі пленэр плануецца правесці ўжо вясной наступнага года. За другім крокам, мяркую, трэба рабіць трэцці, чацвёрты і г.д. Якія? — Падумаць аб стварэнні алеі (сквера, парка, галерэі) скульптуры. Паколькі дрэва — матэрыял нявечны для адкрытага паветра (па-французку «пленэра»), знайсці творам разьбяроў месцы ў музеях, інтэр'ерах нашых лепшых грамадскіх будынкаў. Каб у нашым жыцці мастацтва вечна было з намі.*

Читатель о культуре

## Я ГЛУПОСТЕЙ НЕ ЧТЕЦ, А ПУЩЕ ОБРАЗЦОВЫХ»

КОГДА кругом зловеще пророчат о гибели культуры и почти не издаются поэтические сборники, приятно встретить на страницах печати, хотя бы изредка, стихотворные опыты.

А газета «Могилевские ведомости» даже отвела особую колонку «Народное творчество не умирает». Читаю и прихожу к выводу: какое там «не умирает» — цветет и пахнет. Расхожие обывательские сентенции типа «Новое содружество как новое супружество», («СССР создай — будет жизнь как рай»), «Что молчишь народ, ну, раскрывай свой рот». И рифмы, выцветшие еще во времена Державина: «шел-вел», «получил-точил», «добро-серебро», «смело-дело»... Если это народное творчество, то над чем тогда смеются читатели крокодильской рубрики «Нарочно не придумаешь» или вожыкаускай «Пяро нарыпела?»

А сравнивать-то не с чем: не со стихотворцами-«мовистами» (разумеется, не в значении белорусского «языковеда», а во французском, катаево-захаровском смысле — «хуже некуда») газета с некоторых пор не дружит.

Отсюда — совсем не комический побочный эффект, сам тому свидетель: в сознании ценителей изящного, воспитанных на идеологизированных сочинениях развитого соцреализма, а теперь переключившихся на западно-бульварное чтиво, стирается и без того едва различимая грань между стихоманией и поэзией. Газета плохого не напечатает! Попробуй объясни им, что за подобными публикациями, насколько я понимаю, скрывается горькая ирония журналистов над «совковым» мироощущением, дань давней традиции саморазоблачения пошлости — класический пример «Плоды раздумий» Кузьмы Пруткова.

Невольно вспоминается «нетленка» времен позднего застоя, растиражированная в сотнях плакатов, расклеенных по всему городу (автор до сих пор неизвестен) «Даже в маленьком деле не делай халтуры — ведь ты создаешь в Могилеве культуру».

**Марк ШЛЯФЕР,**
**инженер.**

●Ваша слова, маэстра

# Святло, пакладзенае на музыку

СТАЯЛА малітоўная цішыня. І вось у ёй, дзесьці на самай глыбіні, прабіўся дзівосны гук. Яго ўспрымаў не толькі слых, але і вочы, сэрца. За першымі гукамі пайшлі словы і ад кожнага ішло святло. Святло было не асляпляючым, а ціхім, таямнічым, а струменіла яго духоўнае песнапенне «Да направится молитва моя». І ўспомніўся Давідаў Псалом, з якога пачынаецца вячэрня ў храме:

*Да направится молитва моя*
*Перед Тобою, как дым*
*кадильный,*
*Воздеяние рук моих жертва*
*Вечерняя...*

А выконваў гэты цудоўны духоўны твор П.І.Чайкоўскага камерны хор горада Магілёва. Спевакі стаялі высока на хорах у храме, але здавалася, што гэта спяваюць не яны, а анёлы, хоць словы зусім зямныя, ідучыя з жывога чалавечага сэрца.

Вось ужо амаль два гады я знаёмы з гэтым таленавітым калектывам, які стварыў тонкі знаўца камернай і духоўнай музыкі, вялікі іх клапатлівец Сяргей Юр'евіч Лішчанка. Высокі, стройны, з высакародным тварам і спакойным голасам маэстра Лішчанка з першай сустрэчы становіцца прыемным субяседнікам.

Сяргей Юр'евіч нарадзіўся на Паўднёвым Урале, там закончыў музычнае вучылішча, а пасля яго паступіў у Казанскую Дзяржаўную кансерваторыю па класу харавога дырыжыравання. Яго настаўнікам быў сусветна вядомы педагог, харавік Сямён Абрамавіч Казачкоў.

— Ён і ўзмацніў маю любоў да харавых спеваў, — расказаў Лішчанка. — Калі можна так сказаць, трансфарміраваў яе. Ну, а ў Беларусь пасля заканчэння кансерваторыі мяне паклікала чалавечая любоў — жонка-беларуска, якая вучылася ў нас на фартэп'янным факультэце.

— Так што праз жонку Вы параднiліся з Беларуссю? — спытаў я ў Лішчанкі, спадзеючыся пачуць, што гэта менавіта так.

— Не толькі праз жонку, — усміхнуўся Сяргей Юр'евіч. — Я напалову ўкраінец. Мой бацька з Украіны. І я душой цягнуся да мастацтва заходніх славян: украінцаў і беларусаў. Люблю яго, як і матчыны песні.

Гэта не проста словы. Пасля кансерваторыі Лішчанка два гады працаваў ў Гомелі, кіраваў там прафесіянальным хорам у абласной філармоніі. У Магілёў яго запрасілі і не памыліліся. Камерны хор, створаны Лішчанкам з настаўнікаў музыкі горада, стаў адной з сапраўдных крыніц таго свята, якое так патрэбна нам для таго, каб выгнаць з душы цемру.

Камерны хор нярэдка выступае на сельскай сцэне, і вяскоўцы з замілаваннем слухаюць яго. Ведаюць Сяргея Лішчанку і яго братоў і сясцёр па мастацтву ў Польшчы і Францыі, дзе яны выступалі з вялікім поспехам.

Ну, а што тычыцца беларускай песеннай спадчыны, то, як адзначыў сам маэстра, да яе ў яго сардэчнае прыцягненне. Хор выконвае беларускія народныя песні ў апрацоўцы выдатнага фалькларыста Беларусі Рыгора Шырмы, 100-годдзе з дня нараджэння якога сёлета адзначала ўся рэспубліка. У рэпертуары камернага хора нямала твораў беларускай духоўнай музыкі. Сярод іх «Магутны Божа», «Дай, добры Божа», «Матачка Божая», «Пад твае прыходзім дзверы», «О, Божа, Спасе наш». Слухаючы іх, я ўспомніў выказванне Карла Пятага, рымскага імператара, які ацэньваючы якасці многіх моў свету, сказаў, што толькі на італьянскай мове можна размаўляць з Богам. Калі б ён пачуў гэтыя малітоўныя творы, то пераканаўся б, што і на беларускай мове не сорамна звярнуцца да нашага Айца нябеснага.

Спявае камерны хор Магілёва, і ліецца прама ў душы святло вечнай музыкі, азорвае яе самыя глухія завулкі, авалодвае імі, вяртаючы душам страчаную памяць і ранейшы воблік — ад Госпада.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ,**
**журналіст.**

● Славутыя землякі

# Асветнік і душапастыр

**Да 275-годдзя з дня нараджэння Г. Каніскага**

ПА НОВАМУ палажэнню аб Праваслаўнай Царкве 1633 года ў Вялікам Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім для праваслаўных беларусаў была прызначана толькі адна біскупская катэдра ў Магілёве.

У 1755 годзе, 20 жніўня, на магілёўскую беларускую катэдру быў асвечаны архімандрыт Георгій Каніскі, рэктар Кіева-Магілянскай акадэміі.

Нарадзіўся Каніскі 20 лістапада 1717 года ў гор. Нежыне ў шляхецкай сям'і. Ва ўзросце 11 год Георгій быў адасланы бацькамі ў Кіева-Магілянскую акадэмію для атрымання адукацыі. Бліскуча скончыўшы курс акадэміі і вырашыўшы прысвяціць сябе навуцы, Г.Каніскі ў 1744 годзе пастрыгся ў інакі Брацкага кляштара, атрымаўшы пры гэтым духоўнае імя Георгі, замест свецкага Грыгоры. У 1745 годзе Георгія Каніскага прызначаюць выкладчыкам на кафедры красамоўства Кіева-Магілянскай акадэміі, у 1751 годзе яго прызначылі прафесарам на кафедру багаслоў'я, а яшчэ праз год ён становіцца рэктарам акадэміі. І знаходзіўся на гэтым пасту да 1755 года, да асвячэння на магілёўскую катэдру.

Першай важнай справай, зробленай ім, пры ўступе на катэдру было адкрыцце ім у Магілёве духоўнай семінарыі ў 1757 годзе і стварэнне пры архірэйскім доме друкарні для друку духоўнай літаратуры.

Асноўную мэту сваёй дзейнасці Г.Каніскі пабачыў ва у ўзмацненні і абароне праваслаўнай веры, выкарыстоўваючы любыя сродкі.

Так, у 1762 годзе ён ездзіў у Маскву, замежную дзяржаву, на ўкаранаванне Екацярыны II, перад якой хадатайнічаў аб заступніцтве за праваслаўных Вялікага Княства Літоўскага. Тая пагадзілася апекаваць праваслаўных за межамі сваёй дзяржавы.

У 1765 годзе Г.Каніскі быў у Варшаве, пабываў на аўдыенцыі ў караля Станіслава Панятоўскага і выступіў перад ім з яскравай прамовай у абарону сваёй паствы. Пасля гэтага ён падаў каралю мемарандум, дзе падрабязна выклаў сумнае становішча праваслаўных у Польшчы і Беларусі. Пры ўкладзе свайго мемарандума яму прыйшлося добра вывучыць гістарычныя дакументы і юрыдычныя акты, на якія спасылаўся ў мемарандуме. Усе гэтыя матэрыялы ён выдаў на польскай мове пад назвай «Правы і вольнасці жыхароў грэчаскага веравызнання ў Польшчы і Ліцве».

Дзякуючы намаганням Г.Каніскага ў сакавіку 1767 года з'явілася новае палітычнае ўтварэнне — Слуцкая канфедэрацыя. Гэта быў саюз праваслаўнай шляхты, які сваёй мэтай ставіў абарону правоў праваслаўных. У супрацьвагу яму каталікі і ўніяты ўтварылі сваю Барскую канфедэрацыю.

Гэтае супрацьстаянне ўрэшце-рэшт і з'явілася адной з прычын вайны паміж Рэчай Паспалітай і Расіяй. У выніку тэрыторыя Рэчы Паспалітай была падзелена. Уся тэрыторыя Беларусі была захоплена Расіяй.

Г.Каніскі быў пакінуты на магілёўскай праваслаўнай катэдры. З пачатку 70-х гадоў XVII ст. дзейнасць яго набывае новы накірунак. Ён пабудаваў у Магілёве новы будынак для духоўнай семінарыі, заклаў новы кафедральны сабор і напісаў шмат пропаведзяў. Г.Каніскі распачаў выхоўваць прыхаджан праз пропаведзі і выкарыстоўвае царкоўную катэдру для выкрыцця парокаў грамадства.

Выхоўваючы прыхаджан у духе дабрачыннасці, Г.Каніскі шмат часу адводзіў у сваёй грамадска-палітычнай дзейнасці пытанням адукацыі. Ён вельмі рупліва слядзіў за дзейнасцю семінарыі, пры царквах епархіі адчыняў праваслаўныя народныя школы.

Вольныя часіны Г.Каніскі прысвячаў заняткам навукай. Яму належаць некалькі навуковых прац па філасофіі, гісторыі. Каніскі пісаў вершы, драмы.

Памёр Г.Каніскі 13 лютага 1795 года, пражыў 77 гадоў. У памяці нашчадкаў ён застаўся як таленавіты чалавек рознабаковых здольнасцей.

На вялікі жаль, не захавалася месца пахавання Г.Каніскага. Але трохпавярховы будынак, дзе размешчаны музей гісторыі Магілёва, вядомы як палац архірэя, палац Г.Каніскага і з'яўляецца своеасаблівым помнікам гэтаму славутаму дзячу XVII стагоддзя.

**І. ПУШКІН,**
**дырэктар музея гісторыі г. Магілёва.**

# ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА

*Кнігарня*

## «Вожык смяецца»

Ён смяецца ўжо больш за паўстагоддзя. Першы і адзіны беларускі сатырычна-гумарыстычны часопіс, які пачаў выходзіць у ліпені 1941 г. як агітацыйны плакат пад назвай «Раздавим фашистскую гадину». Можна толькі ўявіць аб'ём матэрыялаў, што быў надрукаваны за такі час. Тысячы матэрыялаў розных жанраў і памераў, сотні аўтараў, сярод якіх, не абы-хто — народныя пісьменнікі Беларусі Янка Купала і Якуб Колас, Максім Танк і Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва і Пятрусь Броўка, Пімен Панчанка і Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч, Іван Шамякін і Андрэй Макаёнак, шмат маладзейшых пісьменнікаў, паэтаў, журналістаў, майстроў трапнага мастацкага слова, дасціпнага жарта.

Мала знойдзецца сярод беларускіх літэратараў тых, хто так ці інакш не аддаў належнае гумарэскам ці памфлетам, байкам, сатырычным ці гумарыстычным вершам. Таму зборнік лепшых твораў (на думку складальнікаў Г.Афанасьевай, В.Болтача, І.Стадольніка, Л.Сузіна, В.Шуста), што былі надрукаваны ў «Вожыку» за паўвека, і атрымаўся такі аб'ёмны і разнастайны — пад 500 старонак, дзе ў шасці раздзелах (вайна плюс пасляваенныя этапы творчага шляху) змешчана ўся разнастайнасць беларускіх сатыры і гумару

Прыкметнае месца займаюць у кнізе і нашы землякі-магіляўчане. Сярод іх — Кастусь Губарэвіч, Іван Навікаў, Кастусь Кірэенка, Эдуард Валасевіч, Аляксей Пысін, Сцяпан Гаўрусеў, Мікола Аўрамчык, Васіль Хомчанка, Іван Аношкін, Аляксей Зарыцкі, Яўген Крупенька, Георгій Юрчанка, Анатоль Сербантовіч, Марат Баскін, Генадзь Зотаў.

Гэта, несумненна, самы аб'ёмны, поўны своеасаблівай анталогіі, зборнік гумару беларускіх пісьменнікаў. Зборнік «Вожык смяецца» выйшаў вялікім для рэспублікі тыражом у 9 тысяч асобнікаў і надзіва мізэрным па кошту, (усяго 2.90). Знайсці яго можна ледзь не ва ўсіх кнігарнях вобласці.

Спяшайцеся, пакуль ёсць.

**М.МАГІЛЕВЕЦ.**

## АНЕКДОТ

70-е гг. В кабинет секретаря обкома партии врывается здоровенный мужик и, сделав характерный жест, кричит: «Хайль Гитлер!». Тот, приложив пальцы к губам «тсс!«, деловито подскакивает к двери, запирает ее на ключ и радостно осведомляется: «А что — наши пришли?»

* * *

Всего от одной награды и всего один раз отказался Л.И.Брежнев. Это был высший орган архипелага Новая Гвинея — Большое Золотое Кольцо в нос.

* * *

Так шутили в 85-м, представляя жизнь через 10 лет. «Иван, ты денег много уже накопил, машину скоро покупаешь?» — Да, ну ее... Лучше добавлю 500 рублей — бутылку водки куплю».

* * *

Собирались отменять области на Беларуси. Потом объединять Могилевскую, Витебскую и Гомельскую области. Потом отбой — передумали. Решили объединить чернобыльские районы Украины и Белоруссии под именем — Помирания.

# Заповеди молодым

**...Любовь не купишь и**
**не украдешь**
**И лишь в родной душе ее**
**найдешь.**
**Зачем же молишь, плачешь**
**и кричишь!**
**Ищи, кто создан для тебя, и**
**только лишь!..**

Молодая семья! Это что-то большое и важное. Он и Она — некогда незнакомые люди, никогда не знавшие друг о друге ничего — теперь вместе! Вместе теперь они будут делить все невзгоды и мучения, всякие испытания судьбы. И всякий раз, смотря на молодую семью, хочется сказать: «Будьте счастливы! Дай вам бог счастья и здоровья!» Но молодые должны знать главную заповедь счастья: Чтобы быть счастливым, надо верить в возможность счастья.

Многие молодые семьи, начиная свой жизненный путь, думают о том, что богатство играет большую роль в жизни молодой семьи. Да — это так. Но мы не должны забывать и о том, что богатство не в самом обладании богатства, а в умении целесообразно пользоваться им.

Начиная молодую жизнь, мы должны помнить восемнадцать жизненных ценностей счастья, ценностей ориентировки личности:

а) КРАСОТА. Ваша внешняя привлекательность.

б) МУДРОСТЬ. Зрелость суждений и здравый смысл.

в) ЗДОРОВЬЕ. Физическое и психическое.

г) РАБОТА. Интересная и творческая.

д) ПРИРОДА. Возможность постоянного общения.

е) ЛЮБОВЬ. Духовная и физическая близость с любимым человеком.

ж) МАТЕРИАЛЬНАЯ ОБЕСПЕЧЕННОСТЬ. Отсутствие серьезных материальных затруднений.

з) ДРУЗЬЯ. Искренние и настоящие.

и) МИР. В обществе и на Земле.

к) КУЛЬТУРА, ИСКУССТВО. Приобщение к ним.

л) РАВЕНСТВО. Равные возможности для всех.

м) СВОБОДА. Независимость в поступках, словах и действиях.

н) ВРЕМЯ. Его наличие для отдыха и размышлений.

о) СЕМЬЯ, ДЕТИ. Счастье в семейной жизни.

п) ЗНАНИЯ. Возможность расширения образования и интеллектуального развития.

р) УВЕРЕННОСТЬ В СЕБЕ. Свобода от внутренних противоречий и постоянных сомнений.

с) УДОВОЛЬСТВИЕ. Жизнь в постоянных развлечениях. Вспомнились мне слова одного гениального поэта, который, описывая красоту, женщины писали: «Подобно тому, как в каждом мужчине скрыт мальчик, герой, любовник и бог, каждая женщина воплощает в себе девственницу, блудницу и богиню».

Да, воистину, красота женщины не имеет себе равных. Гибкое тело, плавный взмах рук, нежный радостный взгляд... Все это, сливаясь воедино образует ангела, с его нежностью, чудо природы.

**...Я давно спросить тебя хотела:**
**разве ты совсем уже забыл,**
**как любил мои глаза и тело,**
**сердце и слова мои любил...**
**Я тогда твоей была отрадой,**
**а теперь душа твоя пуста.**
**Так однажды с бронзового сада**
**облетает поутру листва.**
**Так снежинки — звездчатое чудо**
**тонким паром облетают ввысь.**
**Я ищу, ищу тебя повсюду,**
**где же ты! Откликнись, отзовись...**

Вы можете спросить: зачем я написал эти стихи. Просто мне вспомнилось, сколько девчонок или парней потеряли эту любовь или просто играли с ней, другим при этом делая большую боль. Сколько счастливых семей могло быть, но из-за какого-то одного случая большинство влюбленных пар расстаются навсегда, теряя может быть свое счастье.

Но все же у вас все отлично, вы нашли то, что искали, может, долгие годы.

У вас своя семья, любимый муж, отец, настоящая опора в жизни.

Но молодой семье нужно всегда помнить слова А.Моруа: «Удачный брак — это строение, которое нужно каждый день реконструировать». Ибо в этом сохраняется счастливый, вечный брак.

Лидер в семье — лишь тот, кто, страдая и ошибаясь, тяжело тащит возок семейного счастья в нужном направлении. И это именно так, легкого лидерства не бывает. Хочешь быть лидером — будь им! Главный в семье — не значит грубый. Всем мужьям надо знать три заповеди:

а) делай сам то, что ты советуешь другим,

б) никогда не поступай против справедливости,

в) терпеливо переноси слабости людей, окружающих тебя.

В борьбе за лидерство не забывай, что сильный — всегда великодушный и он умеет прощать. Слабый — всегда мелочен, жесток и злопамятен.

**...Еще томлюсь тоской желаний,**
**Еще стремлюсь к тебе душой —**
**И в сумраке воспоминаний**
**Еще ловлю я образ твой.**
**Твой милый образ, незабвенный,**
**Он предо мной везде, всегда,**
**Недостижимый, неизменный,**
**Как ночью на небе звезда...**

**(Тютчев).**

**М. ЛИТВИНСКИЙ.**

*Паэтычныя радкі*

## САГРЭЛІ СЛОВАМ ДУШЫ

Мяне гняце і сёння
Кашмар былых нягод:
Баракі ў гіблай зоне,
Вакол калючы дрот.
З далёкае дарогі
Зямляк сюды прыбыў.
Пачуў я ад нябогі:
— Хапун у вёсцы быў.
У той марознай глушы
Знайшлося нам цяпло:
Сагрэлі словам душы,
Бо роднае было.
У цемрадзь — чым не казка —
Пранік святла прамень.
Гучала: «Калі ласка!»,
«Трымайся», «Добры дзень».
Паўсталі прад вачыма
Бярозкі, ніўны ўсплёск.
Бліжэй была Радзіма,
Лягчэй здаваўся лёс.

**Рыгор БОХАН.**

●

В сиреневом тумане
В сиреневой дали
Рукою детство манит
Меня на край земли.

До светлой звонкой кромки,
К началу всех начал,
Где тополек мой тонкий
Взметнулся, как свеча.

Там в снах мальчишка бродит
По голубым снегам,
Скрипит журавль-колодец
Бадьею по ночам.

Там чаще дождь и грозы,
Там солнце горячей,
Котенок там курносый
Мурлычет на плече.

**Л.МАРЦУЛЬ.**

# КРОССВОРД

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** 1. Советский физиолог растений, член-корреспондент АН СССР. 4. Любимый инструмент знаменитого джазового композитора Бенни Гудмана. 7. Элемент вычислительной машины. 9. Санаторий-профилакторий автомобилистов области под Могилевом. 11. Опера Д.Верди. 12. Опорная деталь машины. 13. Французский писатель-фантаст. 16. Высота боковой грани правильной пирамиды. 17. Жаропонижающее и болеутоляющее лекарство. 18. Набросок, этюд. 20. Советский атомный ледокол, достигший Северного полюса. 21. Публичная продажа товаров с торга. 22. Род обезьян. 24. Русский библиограф и писатель (1862-1946). 26. Река в Туркмении и Иране. 27. Город в Казахстане. 29. Чешский композитор, основоположник музыкальной классики. 31. Герой гражданской войны, уроженец г. Полоцка. 32. Часть слова. 33. Река в Индии. 36. Герой Советского Союза, уроженец г. Костюковичи, командир танкового взвода в 1943 г. первым ворвался в г. Орел. 37. Стилистический прием. 38. Балетный прыжок. 39. Измерительный прибор.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:** 1. Словацкая писательница, автор повестей «Испытание», «Герой». 2. Народность в Индии. 3. Основное сырье для изготовления шелка на Могилевском заводе искусственного волокна. 4. Цель у баскетболистов. 5. Один из сортов яблок на Беларуси. 6. Персонаж романа А.Фадеева «Молодая гвардия», Герой СССР. 7. Вид радиоприемника. 8. Краткое замечание, возражение. 9. Расход, затраченная сумма. 10. Витамин, органическое вещество. 14. Рыба семейства окуневых. 15. Автоматическое водоразбрызгивающее приспособление на трубопроводах систем пожаротушения. 18. Каменный утес. 19. Полый стержень, на который насаживается курительная трубка. 22. Зерновая культура. 23. Русский землепроходец 18 в., исследователь Камчатки и Курил. 24. Популяризация товаров, услуг. 25. Река в Северной Америке. 27. Основная корпусная часть машины. 28. Вид зубного протеза. 29. Дерево пустынь. 30. Раздел математики. 34. Дутая сенсация в прессе (перен.). 35. Вес чистого благородного металла в монете.




АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, НАДРУКАВАНУЮ Ў № 22

**ПА ГЫРЫЗАНТАЛІ:** 5. «Беларусь». 6. Скарапіс. 9. «Песняры». 10. «Турыст». 11. «Помста». 12. Гайна. 17. Інава. 18. Кожар. 19. Паданне. 22. «Астарта». 23. Дыярыўш. 27. Мазанік. 28. Тураў. 299. Кулеш. 32. Талаш. 34. Кісель. 35. Гарнец. 37. Верлібр. 38. Адамовіч. 39. Панарама.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Марыся. 2. Асвея. 3. Скарына. 4. Маўзон. 5. «Будучыня». 7. Світанне. 8. Андарак. 13. Свіслач. 14. Гонта. 15. «Татры». 16. Мазурук. 20. Палік. 21. Быкаў. 24. «Паўлінка». 25. Купалле. 26. «Несцерка». 30. Маневіч. 31. Кляймо. 33. «Казыры». 35. Абраз.

**ШТОТЫДНЁВІК**

**Заснавальнік газеты: Магілёўская арганізацыя БНФ «Адраджэньне».**
Заснавана ў лістападзе 1990 года.

**Рэдактар**
**Алесь СЕРДЗЮКОЎ**

**Адказны сакратар**
**Влэд РУМЕ**
**Карэспандэнты:**
Вольга СЕРАКОВА,
Мікалай НОЖНІКАЎ,
Алёна ШКЯЛКО,
Уладзімір ЯКУБОЎСКІ.
**Карэктар**
Жанна АЛЯКСАНДРАВА.

**НАШ АДРАС:**
**г.Магілёў,**
**Палац Саветаў, п. 650.**
**А/я — 138.**
**Тел. 25-64-73.**

**Выдаецца на беларускай і рускай мовах.**
Наклад 4000 тыс. асобнікаў.
Падпісана ў друк
25 лістапада 1992 г.

*Магілёўская абласная ўзбуйненая тыпаграфія імя Я.М. Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская, 70.*

Друк афсетны з выкарыстаннем фотанабора.
Фармат А-3, 2 п. а.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор даных, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, калі ў матэрыялах змешчаны даныя, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі.*

*Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.*

*Рэдакцыя «Ратушы» прымае заказы на змяшчэнне аб'яў і рэкламы.*